BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
Subscription $ 6.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

## (НА 80-ЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ Й 35-ЫЯ ЎГОДКІ АД ЯГОНАЕ СЬМЕРЦІ Ў БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЫСЫЛЦЫ)

„Цяперашняму пакаленьню ня вельмі многа гаворыць... імя (Браніслава Тарашкевіча). На працягу двух дзесяцігодзьдзяў яно гвалтам было выкрэсьлена зь гісторыі беларускай культуры і грамадзкага руху. А між тым наўрад ці знойдзецца сярод прадстаўнікоў пакаленьня дваццатых-трыццатых гадоў такі, хто ня ведаў-бы гэтага імя". Гэткімі словамі пачаў у газэце „Літаратура і Мастацтва" напрыканцы 1966 году Г. Юрчэнка сваю рэцэнзію на кнігу Арсеня Ліса „Браніслаў Тарашкевіч", што выйшла ў гэным-жа 1966 годзе ў выдавецтве „Навука і Тэхніка" ў Менску.

Але й па выхадзе згаданае папулярна-навуковае манаграфіі маладога беларускага вучонага Арсеня Ліса, выдатная постаць Браніслава Тарашкевіча й ягоная роля ў беларускім культурным і палітычным руху свайго часу маглі стацца дакладней ведамымі адно нязначнай частцы сяньняшняга беларускага грамадзтва ў БССР. Кніга Арсеня Ліса „Браніслаў Тарашкевіч", дарэчы нязвычайна старанна й аб'ектыўна, на колькі гэта ў сяньняшніх абставінах магчыма, апрацаваная, была выдадзеная мізэрным тыражом усяго 1.800 экзэмпляраў.

Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў заходняй Віленшчыне 20 студзеня 1892 году. Яшчэ будучы вучнем пятае клясы гімназіі ў Вільні, ён сутыкнуўся зь беларускім адраджэнскім рухам і галоўным органам гэтага руху — газэтай „Нашай Нівай". Па сканчэньні гімназіі, ён у 1911 годзе паступіў на гістарычна-філялягічны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту, дзе ў той час разьвівалася ўжо беларускае нацыянальнае жыцьцё сярод студэнцкае моладзі. Калі-ж быў тады ў Пецярбурзе зарганізаваны гурток беларускіх студэнтаў, Тарашкевіч прыняў у ім самы актыўны ўдзел. Пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту ў 1916 годзе, Тарашкевіч два гады застаўся пры катэдры славянскай філялёгіі прыват дацэнтам. Тут пад кіраўніцтвам прафэсара Шахматава й акадэміка Карскага ён пасьпяхова працаваў над беларускай моваведай. Вынікам гэтае працы й была „Беларуская граматыка для школ", выдадзеная ў 1918 годзе ў Вільні.

Гэтая „Граматыка" мела аж пяць выданьняў у Вільні й колькі выданьняў у Менску. Яна згуляла нязвычайна важную ролю ў гісторыі беларускай моваведы й гісторыі беларускай культуры, як першая нарматыўная граматыка беларускае мовы. Апрацаваныя ў ёй граматычныя асновы беларускай літаратурнай мовы й правапісныя нормы былі поўнасьцяй прынятыя беларускай моваведай і практычна абавязвалі аж да 1933 году. Праведзеная ў гэным 1933 годзе русыфікацыйная ўрадавая рэформа правапісу й некаторых граматычных нормаў беларускае літаратурнае мовы адкінула або зьнявечыла шмат якія нормы, устаноўленыя Тарашкевічам. Гэткім парадкам, Тарашкевіч стаўся заснавальнікам беларускай нарматыўнай граматыкі й правапісу беларускай мовы, і ў гэтым ягонае галоўнае значаньне ў гісторыі беларускай культуры.

Выдатны беларускі мовавед Сьцяпан Некрашэвіч у сваім дакладзе на Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу й альфабэту ў Менску ў 1926 годзе гэткую даў ацэну моваведнай дзейнасьці Браніслава Тарашкевіча: „Тут упамяну толькі аб адной вялікай гістарычнай важнасьці працы Б. Тарашкевіча „Беларуская граматыка для школ", у якой правільна вызначаны асноўныя законы беларускай літаратурнай мовы, і праз гэта намечаны шляхі яе далейшага разьвіцьця. Аднак, Тарашкевіч, так таленавіта распачаўшы сваю працу па дасьледваньні беларускай літаратурнай мовы, хутка яе закінуў, будучы адцягнуты палітычным бокам жыцьця беларускай краіны, і такім чынам к часу абвешчаньня нашай мовы дзяржаўнай новых прац па яе дасьледваньні не зьявілася".

У той час, калі Некрашэвіч гэтак яго характарызаваў, Тарашкевіч знаходзіўся ў Заходняй Беларусі, быў паслом ад беларускага народу ў польскім сойме й стаяў на чале масавай беларускай палітычнай арганізацыі — Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, як ейны старшыня. Увесь час ён быў апэратыўна-практычным галоўным дзеячом Грамады, тымчасам як ейным ідэялёгам быў галоўны грамадаўскі публіцысты Антон Луцкевіч, што быў зьліквідаваны бальшавікамі ў канцы 1939 ці напачатку 1940 году.

У згаданай манаграфіі Арсеня Ліса пра Браніслава Тарашкевіча застаецца штонайменш спрэчным пытаньне дачыненьняў Тарашкевіча і ачольванай ім Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да камунізму і ў прыватнасьці — да Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі. Паводля Арсеня Ліса, Тарашкевіч ад рэвалюцыйнага дэмакрата эвалюцыянаваў у часе Грамады да марксістага-камуністага, а навет і „аформіўся" быў як сябра Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі на 3-яй ейнай канфэрэнцыі напачатку 1926 году. Ці яно ўзапраўды было гэтак, хіба ня пэўны й сам Арсень Ліс. Рэч у тым, што Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі, як нелегальная й строга падпольная, не афармляла сваіх сяброў, ня выдавала партыйных білетаў, а так-жа не вяла іхных іменных сьпісаў.

Іншая справа, што выказваньні Тарашкевіча на палітычныя й сацыяльныя тэмы ды ягоная практычная дзейнасьць у часе Грамады былі сугучнымі з тагачаснымі камуністычнымі дактрынамі. Але, з другога боку, Тарашкевіч зь ня меншай настырлівасьцяй выступаў і ў вабароне нацыянальных інтарэсаў беларускага народу, шчыра рупіўся разьвіцьцём беларускай нацыянальнай культуры, змагаўся супраць паланізацыі й русыфікацыі, паводля сваіх перакананьняў быў ня інтэрнацыяналістым, а палкім беларускім патрыётам. Дык калі й дапусьціць, што Тарашкевіч у часе Грамады стаўся камуністым, дык быў ён беларускім нацыянал-камуністым тыпу Ўсевалада Ігнатоўскага.

Падобна й зь Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой. Арсень Ліс прадстаўляе яе, як легальную прыбудоўку да нелегальнай Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі. Што камуністыя імкнуліся, каб Грамада была якраз гэткай, гэта рэч іншая. Мэтай камуністычнай палітыкі ў дачыненьні да Грамады было, каб пры ейным пасярэдніцтве прыбраць беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі ў свае собскія рукі. Падчас першых выбараў у польскі сойм у 1922 годзе камуністыя не змаглі здабыць аніводнага мандату ў Заходняй Беларусі, тымчасам як з польскіх этнаграфічных земляў ім удалося правесьці ў сойм аж колькі сваіх дэпутатаў. Беларусы-ж у Заходняй Беларусі правялі тады ў сойм і сэнат аж чатырнаццацёх сваіх дэпутатаў. І гэта не зважаючы на вельмі няспрыяльныя для іх выбарныя абставіны й вялізарныя перашкоды з боку польскае адміністрацыі. Вынікі выбараў пераканалі камуністых, што да жыхарства Заходняй Беларусі яны могуць ісьці адно пры дапамозе самых Беларусаў і пры пасярэдніцтве кантраляваных імі беларускіх нацыянальных арганізацыяў. Вось тут і хаваецца прычына, чаму камуністыя падтрымлівалі Грамаду й шчодра фінансавалі ейную дзейнасьць. Але ўзяць беларускі нацыянальны рух у свае рукі ім у вялікай ступені ўдалося адно пасьля ліквідацыі Грамадя.

Праўда, Грамада й грамадаўцы арыентаваліся на Савецкую Беларусь. Але на яе арыентаваліся тады й беларускія некамуністычныя нацыянальныя элемэнты. Гэта быў час вялікага нацыянальнага ўздыму ў Савецкай Беларусі сярэдзіны 20-ых гадоў, дзе, паводля перакананьня навет некамуністых, будаваўся беларускі нацыянальны дом. Дык узноў-жа, калі й прыняць, што Грамада ўсё-ж была камуністычнай арганізацыяй, дык ня больш, як сваясаблівай у вабставінах Заходняй Беларусі нацыянал-камуністычнай фармацыяй зь вялікім удзелам у ёй зусім некамуністычных і навет антыкамуністычных нацыянальных элемэнтаў.

Пасьля ліквідацыі ў 1927 годзе польскімі ўладамі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, арышту й засуджэньня ейных правадыроў на даўгія гады зьняволеньня, Тарашкевіч быў савецкім урадам выменены. Сама-ж вымена была абодвымі бакамі гэтак задуманая й праведзеная, што для Беларусаў яна мела гіранічна-зьдзеклівую вымову: Тарашкевіч быў выменены не на каго іншага, а на гэткага-ж, як і сам Беларуса, ведамага беларускага драматурга й тэатральнага дзеяча Францішка Аляхновіча, які ў пачатку 20-ых гадоў нелегальна перабраўся з Заходняй Беларусі пад Польшчай у Менск, каб таксама памагаць будаваць гэны „беларускі дом". Але неўзабаве быў там арыштаваны й высланы на Салаўкі, дзе да свае вымены прамучыўся каля сямёх гадоў. Але пасьля вымены Тарашкевіча ў Менск ужо ня пусьцілі. Быў гэта час самага разгару бальшавіцкага супрацьбеларускага паходу. Тарашкевіча накіразалі на малаважную працу, зусім ня зьвязаную зь ягонай прафэсіяй моваведа, у Маскоўскім міжнародным аграрным інстытуце. Калі-ж яшчэ ў тым самым 1933 годзе былі арыштаваныя таксама перад гэтым выменяныя бальшавікамі беларускія паслы польскага сойму Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Ігнат Дварчанін і іншыя, быў высланы ў аддаленыя раёны СССР і Тарашкевіч. І толькі напачатку 1962 году, у вагульным працэсе рэгабілітацыі ахвяраў сталінскага тэрору, дачакаўся сваёй пасьмертнай ужо рэгабілітацыі й Тарашкевіч. Тады-ж першая аб ім прыпомніла ў нумары за 26 студзеня 1962 году газэта „Літаратура і Мастацтва", як аб чалавеку, што змагаўся „за шчасьце народу". Тады-ж было паведамлена, што Тарашкевіч памёр у 1937 годзе, хоць абставіны ягонае сьмерці ня былі пададзеныя.

Нажаль, гэтае ягонае змаганьне за народнае шчасьце было жахліва зьнявечанае й спыненае. Аднак не зважаючы на гэта, тое, што ўсё-ж удалося Браніславу Тарашкевічу стварыць у галіне беларускай культуры й палітычнай дзейнасьці, у гісторыі Беларусі застанецца назаўсёды.

**Раман Шарупіч**

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ*

# АГУЛЬНЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У нядзелю 16 студзеня сёлета адбыўся Агульны Гадавы Перавыбарны Сход Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі.

Сход адчыніў старшыня Аддзелу Тамаш Супрун, і прывітаўшы прысутных, папрасіў а. Віктара сказаць малітву. Тады ён папрасіў прысутных ушанаваць хвілінаю цішыні памяць адыйшоўшых у вечнасьць: Сьв. Пам. Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, Герархаў БАПЦ Сяргея й Васіля, сяброў Аддзелу й сяброў БАЗА нагул.

За старшыню Сходу пераважаючай бальшынёй быў выбраны малады адвакат Расьціслаў Войтанка, а за сакратара ягоны бацька а. Віктар. За ганаровага сябру Прэзыдыюму быў запрошаны заступнік старшыні Галоўнай Управы БАЗА Уладзімер Курыла.

Із справаздачы старой Управы Аддзелу было відаць, што яна даволі добра вывязвалася з прынятых на сябе абавязкаў і, не зважаючы на некаторыя недацягненьні, мела й дасягненьні. Прыкладам, колькі сяброў, што хранічна залягалі із сяброўскімі складкамі, пачалі іх плаціць, а некаторыя навет за год наперад. Прыбытковыя імпрэзы прынесьлі ў касу Аддзелу 489.64 даляры. Варта адзначыць і тое, што навет леташняе сьвяткаваньне ўгодкаў Акту 25 Сакавіка прынесла 176.84 даляры чыстага прыбытку. Ня былі занядбаныя й некаторыя іншыя драбнейшыя справы, як: атрыманьне праклямацыяў на Дзень 25 Сакавіка ад Губарнатара штату Нью Джэрзі й бурмістра гораду Нью Брансьвік, падняцьце беларускага сьцягу на гарадзкой Ратушы ў дзень 25 Сакавіка, і г. д. Апрача гэтага, Аддзел выслаў 17 лістоў-мэмарыялаў сябром Сэнацкае й Кангрэсавае Камісіяў у справе беларускіх перадачаў у Радыі „Голас Амэрыкі", а таксама ў сьнежні летась пачаў стараньні ў справе малітвы ў Кангрэсе ЗША ў дзень 25 Сакавіка.

Пасьля справаздачы Кантрольнае Камісіі і дыскусіі над справаздачамі на прапанову згаданае Камісіі Сход прызнаў уступаючай управе абсалютор
ыюм з падзякаю. Асаблівая падзяка належыцца сябру Управы Браніславу Даніловічу, які ў справаздачным 1971 годзе сабраў і пераказаў на Выдавецкі Фонд „Беларуса" роўна адну тысячу даляраў.

У новую Управу Аддзелу выбраныя: Тамаш Супрун — старшыня, Расьціслаў Войтанка, Гэлена Войтанка, Мікалай Войтанка, Сяргей Гутырчык, Браніслаў Даніловіч і Васіль Стома — сябры Управы. Апрача гэтага, у Управу аўтаматычна ўвайшоў старшыня мясцовага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Юрка Азарка, як рэфэрэнт справаў моладзі. У Управу Жаноцкае Сэкцыі выбраныя: Марыя Васілеўская — старшыня, Ганна Войтанка, Ганна Супрун і Тамара Януш — сябры. У Кантрольную Камісію: Ніна Стома, Янка Азарка і Пётр Кажура.

Сход закончыўся прапяяньнем прысутнымі беларускага нацыянальнага гімну.

**Удзельнік Сходу**

# ГАДАВЫ ЦАРКОЎНЫ СХОД

У нядзелю 2 студзеня адбыўся чародны Агульны Гадавы Сход Парахвіі БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі. Тут людзі вельмі цікавяцца жыцьцём свае царквы й амаль усе парахвіяне прыйшлі на Сход. Зь цікавасьцяй слухалі справаздачы зь дзейнасьці ўступаючай Царкоўнай Рады. Галоўнымі мамэнтамі гэтае дзейнасьці былі наступныя: дзякуючы стараньням настаяцеля а. Васіля Кендыша й а. д-ра Віктара Войтанкі Парахвія была забясьпечаная поўнасьцяй царкоўна-рэлігійным абслугоўваньнем, у дзень Жыровіцкай Божай Маці Парахвію наведваў Япіскап Пінскі й Таронцкі Мікалай, былі ўрачыста адзначаныя 20-ыя ўгодкі Парахвіі, былі ўшанаваныя паніхідамі сьмерць Уладыкі Сяргея ды ўгодкі сьмерці Уладыкі Васіля. Было наладжана шмат іншых прынагодных імпрэзаў, як, прыкладам, урачыста адзначаныя 90-ыя ўгодкі жыцьця заслужанай парахвіянкі матушкі Філямэны Войтанкі. Далей вялася работа дзеля ўпарадкаваньня магільніку і ўпрыгожаньня царквы. Быў збудаваны й высьвячаны новы іканастас. Грашовая гаспадарка Парахвіі выразілася сумамі прыблізна 13,000.00 дал. па баку прыбыткаў і 10,000.00 па баку выдаткаў. Парахвія мае, аднак, задоўжанасьць Аддзелу БАЗА за маемасьць.

Важнымі мамэнтамі ў жыцьці Парахвіі былі, як і заўсёды, нутраная згода й актыўная праца, цеснае супрацоўніцтва зь іншымі парахвіямі БАПЦ зь Япархіяльнай Управай БАПЦ, з Аддзелам БАЗА ў Нью Джэрзі ды з усімі іншымі беларускімі арганізацыямі.

У Царкоўную Раду былі на Сходзе перавыбраныя: сп. М. Войтанка — старшыня, сп-ня А. Лук'янчук, сп сп. П. Белаец, А. Лысюк, В. Русак, М. Януш.

**В. Р.**

# ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У нядзелю 9 студзеня ў грамадзкай залі Царквы Божай Маці Жыровіцкай у Гайлэнд Парку адбылася калядняя ялінка для дзяцей беларускай калёніі ў Саўт Рывэры, Нью Брансьвіку й аколіцаў. Ялінка была зладжаная стараньнем Бацькоўскага Камітэту Беларускай Нядзельнай школы. Першым нумарам праграмы былі выступленьні вучняў школы й малодшых дашкольных дзяцей: Андрэя, Лены, Іркі й Тоніка Сільвановічаў, Лявона Войтанкі, Наты Русак і Марыйкі Бойчук. Мастацкую частку закончыла выступленьне калядоўшчыкаў пад кіраўніцтвам Аўгена Лысюка, якія прыгожа прапялі колькі калядак. Тады, калі дзеці чакалі зьяўленьня Дзеда Мароза, старэйшыя абмяняліся думкамі што да працы зь дзецьмі й моладзяй.

Дзеду Марозу гэтым разам давялося асабліва цяжка папрацаваць: у залі чакала яго каля 40-50 дзяцей. Не зважаючы на тое, што ня было сьнегу, Дзед Мароз прыехаў у час і быў шчодрым для ўсіх дзяцей. Ялінка закончылася пачастункам для дзяцей, падрыхтаваным гаспадынямі з Бацькоўскага Камітэту.

# ВЫСТУПЛЕНЬНЕ ТРУПЫ "ТАМБУРЫСІ"

24 кастрычніка летась у мястэчку Мэнвіл, Нью Джэрзі, адбылося выступленьне мастацкай трупы Унівэрсытэту Д'юкейн зь Пітсбургу, Пэнсыльвэнія. Трупа спэцыялізуецца ў народнай музыцы, песьні й танцах славянскіх народаў. Рэпэртуар трупы складаецца ў бальшыні з мастацтва народаў Югаславіі й Баўгарыі, уключае аднак нумары вугорскія й румынскія, а таксама часамі й нумары беларускія, украінскія й расейскія.

Гэтым разам у праграме трупы нумароў беларускіх ня было, затое ў 1970 годзе, калі канцэрт адбываўся ў Вудбрыдж, у праграме быў і беларускі танец „Крыжачок". Мастацкі калектыў „Тамбурысі" хіба-што адзіны сваім характарам калектыў у Задзіночаных Штатах. Складаецца ён із студэнтаў згаданага Унівэрсытэту ў Д'юкейн, што пераважна студыююць мастацтва й музыку. Сябры калектыву нясуць нармальную нагрузку ў унівэрсытэце й адначасна выступаюць з канцэртамі ў розных гарадох Амэрыкі. Падчас вакацыяў яны гастралююць за межамі ЗША.

Трупа існуе ўжо 35 год. Яна вырасла з малой групы й добра зарганізаваная й кіраваная, а ў сэньсе мастацкім — гэта ўзапраўды прафэсіяльная група. Мэтай трупы — рэпрэзэнтацыя Унівэрсытэту ў Д'юкейн, здабываньне матарыяльнай дапамогі сабе й іншым студэнтам, што яе патрабуюць, захаваньне й папулярызацыя народнага мастацтва славянскіх народаў.

Раім, каб Беларусы абавязкава наведвалі канцэрты трупы „Тамбурысі", калі яна прыяжджае ў іхныя ваколіцы. На апошні канцэрт у Мэнвіл прыйшло даволі шмат Беларусаў, і яны былі вельмі задаволеныя, што пабачылі асаблівы, высока мастацкі й жыва ведзены канцэрт. Беларусы маглі-б прасіць, каб „Тамбурысі" ўводзілі ў сваю праграму беларускія нумары. Тут патрэбная ня толькі просьба, але й парада ды забясьпечаньне беларускім народным рэпэртуарам.

**В. Р.**

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ

У сыботу 8 студзеня мясцовую беларускую калёнію наведалі калядоўшчыкі. Калядоўшчыкі — гэта ў нас ужо традыцыя, і таму кажная сям'я чакае іх зь нецярпеньнем. Можа нішто не прыпамінае гэтак далёкай Беларусі ў калядныя сьвяты, як калядаваньне нашае моладзі. Прыемна было бачыць сярод калядоўшчыкаў старэйшых з моладзі, студэнтаў каледжаў і вучняў пачатковых школаў — усіх дружна й разам. Выступленьні калядоўшчыкаў былі падрыхтаваныя стараньнем Юркі Азаркі — старшыні Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Джэрзі, сп-ні І. Азарка й сп. А. Лысюка.

Шмат хатаў наведалі калядоўшчыкі із Сястрыцтва Парахвіі Сьв Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Калядоўшчыкі — усе сябры царкоўнага хору, і таму калядкі былі выкананыя па мастацку. Даход з гэтага калядаваньня быў прызначаны на заканчэньне пабудовы царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры.

# НІЗКА ДУМАК ЗЬ ЮБІЛЕЙНАГА ВЯНКА

**Шчыра дзякую Дарагім Суродзічам і беларускім установам і арганізацыям у Вольным Сьвеце, што гэтак дружна прывіталі мяне з нагоды 50-х угодкаў мае літаратурнае дзейнасьці.**

**НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА**

Пры нагодзе залатога юбілею літаратурнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай на адрыс Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва надыйшло колькідзесят прывітальных лістоў і тэлеграмаў. У іх, побач самых прывітаньняў і пажаданьняў, адлюстроўваецца й літаратурна-мастацкае ды нацыянальна-грамадзкае асэнсаваньне пісьменьнікамі, рэлігійнымі й грамадзкімі дзеячамі гістарычнае ролі й значаньня творчасьці Паэткі-Юбіляркі. Ніжэй прыводзім некаторыя зь іх:

Пісьменьнік Юрка Віцьбіч, ЗША: „У сваім асабістым годным перайманьня жыцьці, Вы, як чалавек, зазналі шмат цяжкіх выпрабаваньняў, але толькі загартаваліся ў іх, і, як пясьнярка-змагар, сталіся не да параўнаньня з тымі песьнярамі што апынуліся ля манастырскіх брамаў, шукаючы цішы й спагады..."

Пісьменьнік Кастусь Акула, Канада: „Ваш выдатны юбілей... сьвята ўсяго беларускага народу... Вашыя творы гучэлі на сцэнах тэатраў, із Вашымі словамі беларускі жаўнер ішоў у бой, беларускі юнак — на працу й навуку. Вашымі словамі нашыя вольныя сьвятыні й сяньня хваляць Усявышняга просячы ягоных вялікіх ласкаў. Ваш шчодры талент і руплівая праца адчынілі перад намі ці адны дзьверы ў сьвет мастацкае паэзіі й навучыла бачыць новыя гарызонты мастацкага хараства, зглыбіць чалавечую душу й пазнаць наш духам вялікі й таленавіты народ..."

Пісьменьнікі Масей Сяднёў і Рыгор Крушына, Нямеччына: „Бацькаўшчына ўракла Цябе, і Ты прынесла ёй найвялікшы дар — сваё таленавітае, натхненнае, ветлае слова. Гэтае слова Тваё будзе жыць, пакуль будуць жыць „насельнікі зямлі вячыстай...""

Пісьменьнік Уладзімер Глыбінны, ЗША: „Вы — жывы прыклад жыцьця пражытага не дарма, а на спажытак іншым, а праз гэта й сабе на большую ўцеху. Багдановічаў мастацкі запавет у Вашай асобе здабыў сабе надзейнага спадкаемцу. Мы ўсе ганарымся Вамі й Вашымі творамі".

Праф. Янка Садоўскі й мгр. Аляксей Грыцук, ад БІНіМ у Канадзе: „Нашае найвышэйшае прызнаньне высокаму ўзроўню Вашае творчасьці, у якой, як у вянку, прыгожа ўплецены поруч ідэі служэньня Красе, Людзтву й Бацькаўшчыне..."

Уладыка Андрэй, архіяпіскап БАПЦ, ЗША: „Паўстагодзьдзе Вашае літаратурнае творчасьці дало Беларускаму Народу вялікі скарб, які ня толькі існуе, але й плённа працуе на Славу Божую праз Вашыя рэлігійныя гімны, якія сьпяваюцца ў царкве на дабро й спасеньне душаў нашых вернікаў".

Пратаерэй Др. Аўген Смаршчок, БАПЦ, Бэльгія: „Вітаем у Вас ня толькі аўтарку глыбокапаважных словаў малітвы „Магутны Божа", але й волата пяра, якім Вы, як мячом Багдановіча, „білі ў сэрцы" слабавольных і нясьведамых... Вашы вершы... былі й застаюцца гордасьцяй беларускай паэзіі так перад сваімі, як і перад чужымі".

Архімандрыт Леў Гарошка, Італія: „Вы знайшлі багатую красу пад сінім небам Беларусі, далі бадзёрыя песьні беларускім жаўнерам, усявілі Магутнага Бога прыгожымі гімнамі й настроілі беларускую ліру на сучасны лад... Шмат прыгожага й магутнага Вы ўнеслі ў беларускую паэзію... Веру, што й далей Вашая творчая іскра будзе ясна зьзяць на літаратурнай ніве..."

Старшыня Рады БНР, др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, школьны сябра Юбіляркі, Канада: „У самыя цяжкія дні Яна давала нам духовае падтрыманьне й пацеху сваёй паэзіяй. Абдарала нас сваім натхненьнем і ВЕРАЙ У ТОЕ, ШТО ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ: КЛІКАЛА НАС ДА ЗМАГАНЬНЯ ЗА БЕЛАРУСЬ.

Ці-ж можна забыцца на такія пэрлы паэзіі як МАГУТНЫ БОЖА, ПЯСЬНЯР, СТАЛЁВЫ ЗЬВЯЗ, ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ і шмат, шмат іншых?...

Зярняты ідэяў свабоды, праўды, хараства й справядлівасьці засеяныя ў Ейнай душы 50 год таму ў Базыліянскіх Мурох у Вільні такімі сейбітамі, як Максім Гарэцкі й Антон Луцкевіч, далі нязвычайны й багаты ўмалот. Ганарацца й цешацца ім усе гадунцы Віленскае Беларускае Гімназіі, усё беларускае грамадзтва, уся Беларусь..."

Др. Язэп Сажыч, Камандзер Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, ЗША: „Дазвольце ў імя Беларускіх Вэтэранаў выказаць нашую глыбокую ўдзячнасьць за Вашую творчасьць для беларускіх вайскавікоў і змагароў у форме малітваў, патрыятычных і вайсковых песьняў, якія нас узмацавалі й надалей падтрымоўваюць на духу, бо карыстаемся імі й да сяньня".

Сп. Мікола Нікан, Аўстралія: „МАГУТНЫ БОЖА — які так часта слухаем, сьпяваем, які ўжо нам увайшоў у крою — хай Вас узнагародзіць і дазволіць словам Вашым — праўдай стацца!"

Сп. М. Скабей, старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія: „Творчасьць Вашая наагул, а „Магутны Божа", які стаўся рэлігійным гімнам праваслаўных Беларусаў, у асаблівасьці, робіць Вас заўсёды прысутнай сярод нас, нашай Блізкай".

# НЯМЕЦКАЯ АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАГА АПАВЯДАНЬНЯ

Нямецкае выдавецтва ў усходнім Бэрліне „Фольк унд Вэльт" выдала летась старанна апрацаваную й густоўна афармленую вялікую, на звыш 500 бачынах друку, кнігу пад паэтычным загалоўкам "Störche über den Sümpfen" — „Буслы над балотам". Гэта анталёгія беларускага апавяданьня ў перакладах на нямецкую мову адзінаццаць нямецкіх літаратараў. Апрача тэкстаў апавяданьняў, у кнізе ў якасьці „пасьляслоўя", зьмешчаны на 27-ёх бачынах друку даволі грунтоўны нарыс пра беларускую літаратуру ў ейным гістарычным разьвіцьці нямецкага літаратара Норбэрта Рандова, ды даведніцкія зацемкі пра аўтараў апавяданьняў.

Беларускія апавяданьні зьмешчаныя ў храналягічным парадку, пачынаючы ад апавяданьня Францішка Багушэвіча „Траляленачка" ды канчаючы апавяданьнем сучаснага маладога пісьменьніка Анатоля Кудраўца „Такі дзень". Апрача гэтага, у якасьці ўводных да ўсяе анталёгіі твораў, што падчыркваюць ідэйны аспэкт навачаснай беларускай літаратуры, анталёгія адчыняецца вершам Янкі Купалы „Роднае слова" й алегарычным апавяданьнем Якуба Коласа „Дудар". Усіх у анталёгіі 42 апавяданьні 31-го аўтара. У нямецкай анталёгіі знаходзім і творы, сяньня забароненыя ў Савецкім Саюзе. Гэта — згаданае першае апавяданьне Якуба Коласа з цыклю „казкі жыцьця" „Дудар" ды апавяданьне „Пан Шабуневіч" Алеся Гаруна, уся творчасьць якога пад цэнзурнай забаронай у БССР і сяньня.

Асабліва цікавы й каштоўны згаданы нарыс самога ўкладальніка анталёгіі Норбэрта Рандова пра гістарычнае разьвіцьцё беларускае літаратуры ад XII стг. да апошняга часу. Хоць у васноўных рысах Норбэрт Рандов ідзе сьледам за савецкай гістарычнай канцэпцыяй, аднак высьцерагаецца ейнай грубой тэндэнцыйнасьці, стараючыся быць самастойным і аб'ектыўным у сваёй ацэне беларускага гістарычнага й літаратурнага працэсу. Прыкладам, даючы агляд сучаснай беларускай савецкай літаратуры, аўтар ніразу не паўтарыў прапагандавых шаблёнаў пра ейную партыйнасьць і па-партыйнаму інтэрпрэтаваную народнасьць, ніразу не заўважыў у беларускай літаратуры ўсьцяж паўтаранага у савецкіх працах ейнага арыентаваньня на літаратуру „вялікага рускага народу" й ягоныя культурныя традыцыі.

У канцы кнігі пададзеныя больш поўныя й дакладнейшыя, чымся ў выдадзеным у 1970 г. у Менску савецкім даведніку „Пісьменьнікі Савецкай Беларусі", інфармацыі пра аўтараў зьмешчаных у анталёгіі апавяданьняў ды пералічаюцца абсалютна ўсе кніжныя выданьні іхных твораў, улучна з тымі, што ў згаданым савецкім даведніку апушчаныя, як нясугучныя із сяньняшнім палітычным курсам партыі. Апрача бія- і бібліяграфічнага даведнікавага матэрыялу, у інфармацыйных зацемках даюцца й даволі трапныя характарыстыкі творчасьці кажнага аўтара.

У нарысе Гэрбэрта Рандова сустракаюцца, хоць і рэдка, і некаторыя недакладнасьці. Адное зь іх нельга ня прывесьці гэтта. На пачатку свайго нарысу, згадваючы „казку жыцьця" Якуба Коласа „Дудар" і правільна расшыфраваўшы ў ёй пэрсанаж „Старэйшага брата", як алегарычны вобраз расейскага народу, а „Малодшага брата", як гэткі-ж алегарычны вобраз народу беларускага, Норбэрт Рандов памылкова ўважае „Сярэдняга брата" за алегарычны вобраз украінскага народу. У Коласавым разуменьні „Сярэдні брат" — гэта алегарычны вобраз народу польскага, бо ўкраінскі народ тады, як і цяпер, звычайна ўважаецца, як і беларускі народ, гэным „Малодшым братам".

Не зважаючы на гэта й некаторыя іншыя недакладнасьці, нарыс Норбэрта Рандова — паважная і ў васноўным аб'ектыўная навуковая інфармацыя пра гістарычны шлях беларускай літаратуры. Наагул-жа нямецкая анталёгія беларускага апавяданьня „Буслы над балотам" — з кажнага гледзішча найбольш каштоўная зьява ў галіне перакладу твораў беларускае літаратуры ня толькі ў нямецкую, а й наагул у заходнеэўрапейскія мовы.

**Ст. Ст.**

# КНІГА ПАЭЗІІ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Да 50-х угодкаў літаратурнае дзейнасьці Натальлі Арсеньневай Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва падрыхтаваў да друку том яе выбранае паэзіі „Між берагамі". Вялікага фармату кніга пасьля надрукаваньня будзе мець каля 500 б. Выданьне будзе трывалкім каштоўным укладам у скарбніцу беларускае літаратуры й культуры, здабыткам, якога ня зьнішчаць ні гады, ні вякі.

Акадэмічнае салідное выданьне вымагае аднак-жа не малых грашовых сродкаў і дзеля гэтага Управа Інстытуту зьвяртаецца да Паважаных Суродзічаў з заклікам дапамагчы, паводля сваіх магчымасьцяў, у гэтым важным пачыне. Колькі сяброў Інстытуту ўжо склала, або задэкляравала, паважную суму на пачатак друку. Далейшыя ахвяры на фонд выданьня кнігі дапамогуць справу друку давесьці да завяршэньня яшчэ да будучага лета.

Усіх-жа тых, што маюць намер кнігу купіць, Управа просіць зрабіць гэта ўжо цяпер шляхам перадплаты ў вышыні 10 даляраў за кнігу, ці па цане сабекошту. Пасьля надрукаваньня кніга ў прадажы будзе каштаваць больш.

Грошы на перадплату й ахвяры на фонд выданьня кнігі слаць трэба на адрыс:

Whiteruthenian Institute
of Arts and Sciences, Inc.
3441 Tibbett Avenue
Bronx, N. Y. 10463. U.S.A.

## ПАНІХІДА ПА АЛЯКСАНДРУ МАЛЯЎКУ

У нядзелю 9 студзеня ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, а. Васіль Кендыш адслужыў Паніхіду па нядаўна памерлым капітану беларускага войска Аляксандру Маляўку. Усе прысутныя шчыра маліліся за супакой душы Вернага Сына Бацькаўшчыны, прыкладнага Вайскавіка й глыбокага Патрыёта, а ў жыцьці прыватным сьціплага й спакойнага чалавека. Няхай Усемагутны дазволіць Яму супачыць сярод верных слуг сваіх ды няхай там Яму прысьніцца родная Беларусь.

Паніхіда была закупленая ад імя мясцовага Аддзелу БАЗА, але аплачаная прыватна старшынём і сакратаром БАЗА.

## НА ПАМЯТНІК БЕЛАРУСКІМ ГЭРОЯМ

Падаём ніжэй працяг ахвяраў на Памятнік Беларускім Гэроям у Іст Брансьвіку, Нью Джэрзі:

Ксёндз Пранцішк Чарняўскі — 350 дал., а. Віктар Войтанка — 300 дал., Мікалай Войтанка — 25 дал., В. Р. — 25 дал., Уладзімер Сьлізька — 15 дал., Аляксандар Непеін — 15 дал., Філярэт Родзька — 20 дал., Язэп Кузьменка — 10 дал., Віктар Дубяга — 10 дал., Алег Дубяга — 10 дал., а. Васіль Кендыш — 5 дал., Кэнэт Міранович — 5 дал., Генадзь Дубяга — 5 дал., Суродзічы ў Аўстраліі: Д-р Мілянцэвіч — 5 дал., У. Сідарэвіч — 2 дал., А. Кукель — 2 дал., М. Борстак — 2 дал., У. Гірыс — 2 дал., З. Кадняк — 4 дал.

Управа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі выказвае ўсім ахвярадаўцам шчырае беларускае дзякуй з вэтэранскім заклікам: „Дык няхайжа ня будзе аніводнага Беларуса, які адмовіўся-б даць ахвяру для гэтае вялікае мэты!"

## БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ВЫДАНЬНЯ БІБЛІІ

гэтым квітуе дальшыя дары на друк і аправу Новага Закону. Прыслалі свае дары: Сп-ва Тарас і Зінаіда Сайкі — 717 дал., Сп. Паўла Драздоўскі — 20 дал., Сп. Антон Маркевіч — 18 дал. 50 ц., Сп. М. П — 10 дал., — **разам 765 дал. 50 ц.** Разам із 3.148 дал. папярэдніх дароў, паквітаваных у № 174 „Беларуса", — **3.913 дал. 50 ц.** Усім вялікі дзякуй ад Камітэту й усіх патрабуючых Біблії. Увесь кошт выданьня Новага Закону **3.975 дал.** Значыцца, не стае яшчэ **61. дал. 50 ц.** Просім іншых памагчы.

Чэкі просім пасылаць на адрыс скарбніка Камітэту:

Mr. W. Stankievich
7 Vale Drive
Mountain Lakes, N. J. 07046

## БЕЛАРУСКАЯ БЭТЛЕЙКА

У канцы студзеня была пастаўленая Бэтлейка ў беларускай сям'і ў Готорн, Нью Джэрзі, на якую былі запрошаныя беларускія сем'і з найбліжшай аколіцы. Дзеці былі вельмі зацікаўленыя, зь вялікай увагай сачылі за лялькамі і Бэтлейку вельмі ўпадабалі.

# ДУБ ПЯРУНА Й ТАПОЛЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Шмат на Беларусі гэтых нямых сьветкаў ейнае гісторыі. Старэйшыя зь іх зьяўляюцца равесьнікамі Міндоўга й Гэдыміна, а маладзейшыя сваім векам сучасныя нам. Адны зь іх згадваюцца яшчэ ў хроніках Стрыйкоўскага й Быхаўца, другія народ ахутаў сваімі паэтычнымі паданьнямі, вакол іншых яны яшчэ нараджаюцца. Цудам ацалелыя ня толькі ад войнаў і маланкаў, але й ад сякэры зь пілой, яны заслугоўваюць увагі й аховы. І дазвольце цяпер, хоць коратка, пазнаёміць вас зь некаторымі зь іх, якім народ надаўшы імёны, паспрабаваў такім чынам сам уславіць.

Яшчэ старажытныя народы ўшаноўвалі дуб. Гэтак паводля словаў рымскага консуля Публія Валерыя, продкі прыпушчалі, нібы дуб створаны раней за ўсе іншыя дрэвы. Менавіта таму, як сьветчыць гісторык Тэафраст, першыя статуі багоў рабіліся з дубу. Не дарма рымляне ўзнагароджвалі за выратаваньне чалавека вянком з дубовых галінаў. Гэтая павага да дубу ўласьцівая ўсім народам, а ў тым ліку й Беларусам. І можа яшчэ таксама таму, што, як заўважыў Анатоль Вялюгін:

На карце сьвету мая Беларусь,
Як дубовы лісток,

— а сьледам за ім тое-ж пацьвердзіў Сяргей Грахоўскі:

Дубовы ліст у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Здаўна вядома сваймі вялічэзнымі дубамі аздоба нашае краіны Белавеская пушча. Яшчэ ў 15-м стагодзьдзі навет далёкія гішпанскія й партугальскія купцы вылучна тут набывалі хвоі й яліны для карабельных шчоглаў. Адсюль верагодным будзе прыпушчэньне, што тыя шчоглы, якія данесьлі каравелу Хрыстафора Калюмба „Санта Марыю" праз Атлянтыку да Амэрыкі, былі белавескімі сваім паходжаньнем.

А над усімі гэтымі волатамі ўзвышаецца тут, нібы падпіраючы сабой хмары, дуб Ягайлы. Ён мае ўвышыню 37 мэтраў, у вахопе пяць з паловай і на думку лесаводаў яму ня менш за 800 год. Гэты расьлінны Мафусаіл даводзіцца аднагодкам сьвятой Еўфрасіньні-Прадславе і перад ім яшчэ маліліся ваяўнічыя яцьвагі. Ён накручваў у сваім камлі трохсотгадовае колца, калі ў 1409-м годзе Вітаўт і Ягайла, напярэдадні паходу пад Грунвальд, наладзілі ў пушчы васьмідзённае паляваньне, каб забясьпечыць мясам шматлікія харугвы Літвы й Польшчы. Вось якраз побач з гэтым дубам, паводля паданьняў, і знаходзіўся тады паходны шацёр Ягайлы.

На Тураўшчыне, паблізу вёскі Данілегі, узвышаецца другі стары дуб. Ён вышэйшы за дуб Ягайлы, маючы ў вышыню 42 мэтры і ў дыяматры бяз малага два, аднак на думку спэцыялістых прыблізна на 200 год маладзейшы за яго. У расейскай і прарасейскай літаратуры ён, як раней, гэтак і цяпер, вядомы пад назвай „Цар-дуб", але затое тубыльцы, спрадвеку захоўваючы крыўду й пагарду да цароў, мянуюць яго проста й душэўна „Бацька-дуб" ці „Лясны бацька". У паляшукоў існуе паданьне, што пасадзіў „Бацьку-дуба" адрынуты дрыгвічамі Пярун і таму, калі ў часе самых грозных навальніцаў валяцца вобземлю суседнія дубы, яго ніколі не чапаюць маланкі.

Менавіта гэтаму расьліннаму асілку Пятрусь Броўка прысьвяціў свой верш „Царь-дуб", завяршальная агітстрафа якога:

Стаіць цар-дуб
І ў цішыні
Глядзіць на сонцаўсходзе,
Што ён сягоньня ў камунізм
З прыгонных дзён ўваходзіць,

— вычарпальна сьветчыць аб адсутнасьці ў аўтара й вялікіх паэтычных магчымасьцяў і мастацкага густ.у

У іншым пляне падыйшоў да гэтага волата нашае флёры Уладзімер Караткевіч у сваім цікавым эсэі „Дуб Крывашапкі". Зусім слушна ён спачатку абураецца з подпісаў, якія спакідаюць нажом на ім паасобныя, як той маўляў, экскурсанты, прыяжджаючы да яго з розных гарадоў СССР. З уласьцівым яму тэмпэрамэнтам Караткевіч піша:

„На кары расьпісаўся ва ўласнай дурасьці нехта „Х" ад імя камсамольскай арганізацыі Гомельскага пэдінстытуту, так-бы мовіць, ад імя будучых сейбітаў разумнага, добрага і вечнага. Бедныя хлопцы! Як ім не пашанцавала! Разумныя, відаць, і выбралі, каб гаварыў ад іхняга імя таварыша Х".

Далей пісьменьнік, маючы на ўвазе наваколле гэтага дубу і гістарычных ворагаў нашае краіны цароў Івана Лютага ды Пётру Першага, піша:

„Як глуха! Якая закінутая журба! Быццам і ня было ні кіеўскіх князёў, ні Ванькі Крывавага, ні Пятрухі Мучыцеля".

І таму натуральным зьяўляецца ягоны высноў:

„Ня ведаю, ці адпавядае дрэву імя „Цар-дуб". Назва „Дуб Крывашапкі" адпавядае больш, хаця й яна ня зь лепшых. Усякае імя будзе вартым жалю перад гэтай велічнай вечнасьцю".

Аднак, папершае, Крывашапка ніколі й ня быў на Палесьсі, дзе ў часе казацкіх войнаў змагаліся Нябаба, Галота, Міхненка й Падыбайла, падругое, ня ведалі й яны, калі, як адзін, гэраічна палеглі ў змаганьні, нібы за вольную Украіну, што яна ўсяго толькі працярэблівала панявольніцы ўсіх народаў Маскве дарогу на Захад, і нарэшце, патрэйцяе...

Ці ня лепшай будзе назва „Дуб Пяруна"? Асабліва пры ўспаміне й пра народныя паданьні й пра характэрны верш незабытнага Канстантына Езавітава „Малітва Пяруну", у якой паняволеныя патомкі крывічоў згадваюць, што калі іхнія продкі маліліся гэтаму сваймy богу, дык тады яны:

Крушылі косьці варагу-гаду,
Зьмяталі брамы мураў Царграду,

— а таму й зьвяртаюцца да яго з прачулай просьбай:

Памажы, Пярун, нам,
Бог наш грозны, мілы —
Цяць галовы гадам
Ад чванлівых плеч.

Той, хто быў на Магілеўшчыне, у нашым старадаўным Прапошэску, зьначаным Расейцамі сьпярша на больш блізкі ім па сэнсу Прапойск, а потым на стандартны Слаўгорад, пэўне бачыў у глыбокіх ярох вакол тутэйшае царквы вялізарныя дубы, якія ня ў стане абняць тры мужчыны. Калі **бачыш**

*У БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ*

## УЛАДЫКА МІКАЛАЙ У СЫДНЭІ

Яго Праасьявшчэнства Уладыка Мікалай, прыехаўшы з Канады ў Аўстралію на паховіны Архіяпіскапа Сяргея, скарыстаў з гэтае нагоды і наведаў большыя селішчы суродзічаў, каб уліць ім трохі новае веры й падтрымаць на духу.

Беларусы Сыднэю мелі таксама гонар і прыемнасьць прывітаць яго ў нас. Уладыка Мікалай затрымаўся тут у сваіх родных сп-ва Х-скіх, дзе наведалі яго шмат якія Беларусы. Але з большай групай Беларусаў ён спаткаўся на агульным прывітальным вечары, зладжаным Беларускім Аб'еднаньнем Новае Паўдзённае Валіі. Тут сабраліся й праваслаўныя і каталікі, каб прывітаць і пагутарыць з дастойным гасьцём.

На вечары Уладыка Мікалай прачытаў прысутным вельмі цікавы рэфэрат на тэму „Беларуская Наваградзкая Мітраполія 1291 году", якая фактычна зьявілася зародкам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. На заканчэньне вечару быў падрыхтаваны супольны пачастунак.

У нядзелю беларуская грамада сабралася, каб разам з Уладыкам памаліцца Богу. Калі-ж пачуліся словы малітвы за беларускі народ, у шмат каго паказаліся сьлёзы. Частка прысутных была запрошаная сп-вам В-мі на пачастунак, каб супольна пагутарыць пра нашыя бягучыя рэлігійныя й грамадзкія справы ды пастарацца знайсьці ім разьвязку. Уладыка Мікалай стараўся дзяліцца сваім практычным дазнаньнем і інфармацыямі, як падобныя праблемы разьвязаныя ў іншых асяродках.

Час Уладыкі быў даволі заняты, шмат хто прасіў яго да сябе ў адведзіны, і Уладыка стараўся нікога не пакрыўдзіць і не адмаўляцца ад запросінаў.

Уладыку Мікалая цікавіла таксама прырода Аўстраліі, якая цалком розьніцца ад тае, якую ён знаў.

Беларусы Сыднэю вельмі ўдзячныя Уладыку Мікалаю, за ягоныя наведзіны й жадаюць яму здароўя й сілы, гэтак патрэбнае ў ягонай дзейнасьці — служыць Богу й нашаму народу.

**А. К.**

## ШКОЛЬНАЯ ЯЛІНКА Ў МЭЛЬБУРНЕ

Школьная ялінка ў Мэльбурне адбылася сёлета 2 студзеня ў Беларускім Доме ў Мэльбурне. Гэтая нагода была таксама выкарыстаная й дзеля заканчэньня другога школьнага году Беларускай школкі ў Мэльбурне.

Кіраўнік школкі сп. М. Нікан прывітаў прысутных з Новым 1972 годам ды ўсім пажадаў здароўя й памыснасьці, а дзеткам — розуму й ахвоты да навукі. Ён-жа падаў шырэйшую справаздачу зь дзейнасьці школкі, падчыркнуўшы ня толькі дасягненьні ў навуцы беларускай мовы й беларусаведных іншых прадметаў, але таксама й важнасьць веданьня роднае мовы, дзякуючы чаму бацькі ня трацяць глыбейшых кантактаў із сваймі дзяцьмі ды могуць іх затрымаць пры беларускасьці. Ён падзякаваў сп-ву А. Грушам, у доме якіх адбываліся школьныя заняткі (у новым годзе адбываюцца ўжо ў Беларускім Доме), Беларускаму Камітэту ў Мэльбурне за апеку й матарыяльную дапамогу, Бацькаўскаму Камітэту й настаўнікам за ахвярную працу. Наапошку коратка нарысаваў плян працы школкі ў наступным школьным годзе.

Пасьля гэтай афіцыйнай адбылася мастацкая частка пад кіраўніцтвам настаўніцы сп-ні Э. Яцкевіч. На падвышэньні пры ялінцы сабраліся школьныя дзеткі, якія цешылі прысутных дэклямацыямі беларускіх вершаў ды сьпевам калядак, закончыўшы беларускімі народнымі танцамі — Бульбай і Юрачкам. Пачала Ніна Грыцук вершам П. Броўкі „Дзед і ўнукі", потым Ала Корбут прадэклямавала верш „Ціха, Цішка, ціха, братка" ды ўсе прапялі калядку „Саўка ды Грышка". Тады Піліп Грыцук сказаў верш „Ялінка" А. Салаўя, Міша Груша верш „З новым годам" і ўзноў усе разам прапялі дзьве калядкі „У цёмным лесе" і „Сьвецяць, сьвецяць зорачкі". На заканчэньне пратанцавалі два народныя танцы ў дзьве пары (Ніна Грыцук з Алай Корбут і Люіза Шнэк з Зояй Кукель) Бульбу і ў вадну пару (Ніна Грыцук з Алай Корбут) Юрачку. Танцоры выступілі ў вадмысловых вопратках. Граў ім на акардыёне Юрка Нікан. Пасьля гучных воплескаў, калі на залі ўспакоіліся, былі прачытаныя прысланыя з Бацькаўшчыны калядна-навагоднія пажаданьні, якія скіравалі думкі прысутных у родны край... За хвіліну й пасланец з роднага краю — Дзед Мароз зь мяшком падаркаў на возіку ўехаў у залю.

Заля ажывілася, асабліва дзеці, якім Дзед Мароз пачаў раздаваць падаркі, распытваючы кажнага, як ён вучыцца ў школе й як паводзіць сябе дома. Падаркі дасталі ня толькі школьныя, але і ўсе дзеткі, прысутныя на ялінцы, ды настаўнікі й Старшыня Беларускага Камітэту.

На заканчэньне Старшыня Беларускага Камітэту сп. М. С., дзякуючы настаўнікам за ахвярную працу ды жадаючы дзеткам посьпехаў у далейшай навуцы, коратка паінфармаваў пра плянаваную працу ў Беларускім Доме ды прасіў прысутных дапамагчы ў гэтай працы.

**М. Н.**

**Міністэрства Сельскае Гаспадаркі ЗША** паведаміла ў сьнежні летась, што яно выдала кнігу „Агляд асушэньня балотаў у БССР" — агляд матар'ялаў беларускага савецкага друку, прысьвечаных пытаньням мэліярацыі.

*СПРАВЫ МОЛАДЗІ*

## ВЕЧАРЫНА МОЛАДЗІ

У сыботу 22 студзеня сёлета адбылася Вечарына — Баль Моладзі, якую ладзіла ў Саўт Рывэры (у залі Шэк Гол), Нью Джэрзі, Галоўная Управа Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.

Удача Вечарыны, а асабліва шырокае падтрыманьне беларускага грамадзтва нашае ініцыятывы была нам вельмі патрэбная. Яна ўзмоцніла нас — сяброў Арганізацыі Моладзі, яна была радасна прынятая бацькамі нашых сяброў і нашымі прыяцелямі паміж старэйшага грамадзтва.

На пачатку Вечарыны прысутных прывітала старшыня Галоўнай Управы Арганізацыі Рая Станкевіч, дзякуючы за прыбыцьцё ўсім прысутным і жадаючы прыемна правесьці час. Неяк асабліва шчыра й цёпла, як мне здавалася, прадстаўляў кіраўнік аркестры В. Бычкоўскі сваіх музыкаў у гэткай добрай беларускай мове, што прысутныя дзякавалі яму за гэта гучнымі воплескамі.

І ня дзіва, што добры настрой спрычыніўся да спантанічных выступленьняў з прамовамі спаміж прысутных, як Сп-ра Т. Супруна — старшыні Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, Сп-ра Ул. Курылы — сябры Галоўнае Управы БАЗА, Ю. Азаркі — сябры Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Выказвалі яны сваё задавальненьне, прыхільнасьць да моладзі і прыемнасьць ад беларускай музыкі выдатнае аркестры. Адказныя за буфэт і правядзеньне лятарэі вывязаліся із свайго заданьня вельмі арганізавана й гладка.

Мы хочам падзякаваць усім, што прыбылі на Вечарыну: Ньюёркаўцам за шматколькасны ўдзел, нашым прыхільнікам зь Нью Брансьвіку — Саўт Рывэру, Беларусам із Стамфарду, Бікану й іншых адаленых мясцовасьцяў ды тым з нашых прыяцеляў, якія, хоць і не змаглі асабіста прыбыць на Вечарыну, але ахвяравалі ў касу Арганізацыі раўнавартасьць кошту білетаў. Дзякуем Сп. Сп. М. Казьлякоўскаму й Б. Мельяновічу за выкананьне й ахвяраваньне бел-чырвона-белых і амэрыканскіх сьцяжкоў для ўдэкараваньня сталоў, што добра гарманізавала з настроем Вечарыны. Дзякуем таксама Сп-ні й Сп-ру Т. Супруном за смачныя галубкі, Сп-ням К. Тумаш і З. Станкевіч за прыгатаваньне й ахвяраваньне салатаў для буфэту. Усім Вам нашае шчырае беларускае дзякуй!

А мы — сябры Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскай Моладзі, тыя, што папрацавалі найболыш для Вечарыны й на Вечарыне: А. Лысюк, Г. Тумаш, Ю. Азарка, І. Азарка, Н. Швэд і Рая Станкевіч пацісьнем сабе рукі й павіншуем сябе з посьпехам і добрым прыбыткам у касу Арганізацыі.

Мы пасунуліся крок наперад да нашае мэты — выдаваць свой маладзежны часапіс.

**Рая Станкевіч**

### КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА Ў НЬЮ ЁРКУ

Беларуская нядзельная школа ў Нью Ёрку наладзіла, пад кіраўніцтвам сп-ні Н. Орсы й М. Тулейкі, сьвята каляднае ялінкі, што адбылося ў нядзелю 16 студзеня сёлета ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры. Мастацкую частку прагамы вяла вучаніца школы Алеся Кіпель.

Прагама пачалася вершам Я. Коласа „З Новым Годам", які прадэклямавала Ларыса Курыла. Свае вершыкі сказалі Антон Бартуль ды Коля й Павал Рамана. Ніна Норык пратанцавала два гішпанскія танцы з кастаньеткамі „Гота" і Эстудыянта". Быў таксама дадзены паказ Купалавае паэмы (забароненае цяпер на Беларусі) „На Куцьцю", у якой узялі ўдзел: Ніна Запруднік, Ларыса Курыла, Вера Запруднік, Юрка Кіпель, Багдан Андрусышын і Галіна Орса. Пасьля гэтага прыбыў зь мяшком падарункаў Дзед Мароз (Юрка Курыла) ды раздаў дзецям падарункі. Сьпяваньнем супольных калядак вакол ялінкі, гульнёю з балёнамі ды пачастункам дзяцей закончылася гэтае прыемнае сьвяткаваньне.

Сп. Міхась Тулейка ў заключным слове адзначыў важную ролю свае школы й традыцыяў у ўзгадаваньні малодшага пакаленьня.

## ПЕСЬНІ "ДУДАРА"

У Нью Ёрку ў беларускім выдавецтве „Заранка" выйшаў другім дапоўненым выданьнем зборнік беларускіх народных песьняў пад загалоўкам „Дудар". Цікавая гісторыя гэтага зборніка, што пададзеная ў уступе да яго ад аўтара, які заміж свайго прозьвішча паставіў ініцыялы — „Я. Г.":

„Укладальнік гэтага зборніка, — кажацца ў уступе, — быў на Беларусі вясковым настаўнікам, але ніколі ня вучыў сьпеву й ня знаўся зь ім. А тут школьная адміністрацыя загадала праграмныя гадзіны сьпеваў займаць толькі сьпевамі, а не замяняць іх іншымі прадметамі. Настаўнік падумаў, што пець трэба, але толькі свае родныя песьні, якія знаёмыя яму й вучням, дык вось ён і зьвярнуўся да вучняў, каб яны папрасілі сваіх матак ці бабулек навучыць іх тыя песьні, што самі ўмеюць. Настаўнік з тых песень выбраў толькі такія, што адпавядалі школьнаму ўжытку. Яны й сталіся асновай гэтага зборнічка".

У новым выданьні зборніка, акуратна аформленым і прыгожа выдадзеным, зьмешчана 66 песьняў з нотамі. Із заўвагаў да яго відаць, што бальшыня песьняў паходзіць з Лагойскага раёну. Празь дзесяткі год пасьля іхнага запісаньня яны выдадзеныя за акіянам у Нью Ёрку ў форме беларускага сьпеўніка „Дудар".

Цана зборніка — 2 даляры. Яго можна выпісаць праз рэдакцыю нашае газэты.

## ПРАФЭСІЙНЫЯ ДАСЯГНЕНЬНІ ДОКТАРА МІКОЛЫ ШЧОРСА

Др. Мікалай Шчорс, шэф хірургічнага аддзелу (500 ложкаў) Мэдычнага Цэнтру ў гор. Плятсбургу ў штаце Нью Ёрк, дзякуючы сваім здольнасьцям, працавітасьці й энэргіі, здабыў прызнаньне на агульнаамерыканскім форуме. Др. М. Шчорс займае цяпер становішча віцэ-старшыні Амэрыканскае хірургічнае асацыяцыі, у якой згуртавана каля 9-х тысячаў хірургаў. Як дэлегат гэтае асацыяцыі, др. М. Шчорс браў удзел у лістападзе летась у міжнародным кангрэсе хірургаў у Панаме. Ён-жа — віцэ-старшыня ньюёркаўскае штатнае арганізацыі хірургаў, у якой абраны таксама на становішча старшыні. Функцыі старшыні др. М. Шчорс будзе выконваць на працягу 1974 году. Да ньюёркаўскае штатнае арганізацыі хірургаў належыць каля тысячы чалавек.

Прафэсійнай і арганізацыйнай працы др. М. Шчорс прысьвячае шмат часу й увагі. Сёлета ён спадзяецца ўзяць удзел у міжнародным кангрэсе хірургаў, што адбудзецца ў травені ў сталіцы Італіі Рыме, а таксама будзе прадстаўніком на сёлетнім усеамэрыканскім хірургічным зьезьдзе ў Сан Дыега ў Каліфорніі.

Рэдакцыя газэты „Беларус" вітае свайго сталага чытача й падпішчыка зь ягонымі выдатнымі дасягненьнямі ды зычыць усякае памыснасьці й далейшых удачаў як у асабістым жыцьці, гэтак і ў прафэсійнай дзейнасьці.

### СПРАСТАВАНЬНІ

У № 175 „Беларуса" за лістапад 1971 г. у артыкуле „Архіяпіскап Сяргей" праз недагляд у часе перапісваньня матарыялу прапушчанае імя пав. а. Васіля Чычэліса, які прыймаў удзел у адпраўленьні Паніхіды 12 кастрычніка й у часе паховінаў Сьв. Пам. Уладыкі Сяргея 12 кастрычніка 1971 г., у сувязі з чым просім выбачэньня.

**Япархіяльная Управа БАПЦ**

У артыкулах пра сьмерць Уладыкі Сяргея, зьмешчаных у № 175 „Беларуса" і № 34 „Голасу Царквы", пры пераліку сьвятароў, што прыймалі ўдзел у Божых Службах пры паховінах Сьв. Пам. Архіяпіскапа Сяргея прапушчанае прозьвішча сьвятара а. Васіля Чычэліса, які прыймаў дзейны ўдзел у паховінах з нашага багаславенства.

**Япіскап Мікалай**

гэтыя магутныя дрэвы, адразу прыгадваецца яшчэ мацнейшы за іх радзіміцкі волат Ірвідуб, які знайшоў шырокі адбітак у паданьнях і ў казках. Таму хіба не заслугоўваюць яны рамантычнае назвы дубоў Ірвідуба?

На Віцебшчыне, у мястэчку Бешанковічах, над векавымі дубамі й ліпамі, што абкружаюць гістарычны палац, дагэтуль уздымаецца старэйшы за іх велічны дуб Напалеона. Яшчэ навуковая экспэдыцыя 1939-га году, якую мне давялося ачольваць, узяла гэты дуб пад дзяржаўную ахову, з чаго, між іншым, вельмі зьдзівіўся тады старшыня тутэйшага райвыканкому Іван Раманавіч Прытычэнка, які прызначаў яго для пілаў мясцовага прамкамбінату.

А ў 1812-м годзе, паводля народнага паданьня, Напалеон, стоячы пад ім, назіраў за пераправай праз Дзьвіну корпусу Мон-Брунэ. Пазьней перад тым-жа дубам італьянскі віцэ-кароль Багарнэ абмяркоўваў з нэапалітанскім каралём Мюратам плян сумеснага далейшага наступу на Віцебск. Ужо ў Віцебску Напалеон, разьвітваючыся з губэрнатарам Беларускае губэрні маркізам Пастарэ, паводля сьветчаньня „Полацка-Віцебскае Даўніны", сказаў яму:

„Глядзіце на Беларусь, як на саюзьніцу, а не як на заваяваную краіну".

На Наваградчыне, на ўскраіне былога маёнтку Шчорсы, захаваўся стары, разгалісты бяз малага трохсотгадовы дуб Адама Міцкевіча. Сюды ў вялікую бібліятэку пры палацы графа Храптовіча-Буценева часта прыяжджаў паэта разам із сваймі сябрамі Тамашам Занам і Янам Чачотам. Тут у засені гэтага й за ягоныя часы вялікага дрэва ён працаваў над сваёй паэмай „Гражына". Адсюль ён цешыўся тым родным вакольным краявідам, якім народжаны ягоны патрыятычны зварот:

О, Літва, мая айчына!

Не ацалеў палац, што зьяўляўся выдатным архітэктурным помнікам, загінула ягоная каштоўная бібліятэка, але дуб усё-ж ахоўваецца, як помнік прыроды й культуры. На ягонай агароджы ўстаноўлены шчыт з тэкстам, прысьвечаным паэту, які, між іншым, у сваёй паэме „Пан Тадэуш" аб аблюбаваных ім дубох пісаў:

> ...пад гальлём вашым
> Дзіцём поўзаў я і любаваўся вамі...
> А як Баўбліс-дуб? У ствале яго хавалася
> Дупло вялізнае, а ў ім, кажуць, зьбіралася
> Дванаццаць рыцараў спраўляць банкет вясёлы.

Сумны лёс пасягнуў дрэва аблюбаванае Янкам Купалам. Гэта была старая, але яшчэ поўная жывое сілы таполя, што ўпрыгожвала сабой дворык ягонага сьціплага дому ў Менску. Пакідаючы ў чэрвені 1941-га году Менск, Янка Купала разьвітваючыся зь ёй, пагладзіў ейны шурпаты камель і ўзяў спад яе жменьку роднае зямлі. Полымя бязьлітаснае вайны, ахапіўшы ўсю краіну, спапяліла бадай на палову Менск разам з домам Янкі Купалы. На таполі пажоўкла ў скурчылася лісьцё, а з аднага боку сям-там пачарнела кара. Аднак таполя наўсуперак усім прыпушчэньням не загінула. У наступную вясну яна ажыла й паволі ачуняўшы дачакалася канца вайны, пасьля якое не зьвярнуўся да попелішча свайго дому Янка Купала.

Паваліла старое дрэва навальніца, але Купалавыя сябры пасьпелі завезьці ейныя парасткі на Случчыну й Палесьсе, на Панямоньне й Наддзьвіньне. Яны ўсюды прыняліся й пайшлі ў буйны рост, сымбалізуючы сабой несьмяротнасьць і Янкі Купалы й ягонае краіны. А калі вам давядзецца ў рэчаіснасьці або ў марах трапіць у Менск і наведаць двухпавярховы будынак з надпісам на фасадзе „Літаратурны музэй Янкі Купалы", зьвярніце таксама ўвагу на маладую таполю перад ім. Гэта дачка тае самае старое таполі. І хай шум ейнага лісьця агорне вас любоўю да нязломнае Беларусі.

**Юрка Віцьбіч**

## ПАЭМА ВАСІЛЯ ЗУЁНКА "СЯЛІБА"

Малады беларускі паэта Васіль Зуёнак выступіў у друку зь першымі вершамі ў 1954 годзе, а сяньня ён ужо аўтар двух зборнікаў паэзіі: „Крэсіва" і „Крутаяр", ня лічучы ягоных паэтычных кніжак для дзяцей. Зь ягонай паэтычнай прадкцыі сёлетняга году спыняе на сабе ўвагу ягоная паэма „Сяліба", надрукаваная ў жнівенскім нумары часапісу „Полымя". Паэма гэтая як быццам падсумаваньне й падагульненьне ўсяе дасюлешняе Зуёнкавае творчасьці. У ёй паўтарыліся й глыбей асэнсаваліся галоўныя кірункі ягоных творчых зацікаўленьняў, засярэдзіліся й паглыбіліся важнейшыя асаблівасьці ягонага таленту.

Яшчэ перад выхадам у сьвет у 1966 годзе першага зборніка вершаў Васіля Зуёнка „Крэсіва" агульна прызнаны ўжо тады паэта, хоць і сваім векам і пачаткам літаратурнай дзейнасьці Зуёнкаў равесьнік, але старэйшы за яго паэтычным дазнаньнем Рыгор Барадулін быў неяк сказаўшы, што для яго Зуёнкавы вершы „заўсёды сустрэча зь нечым чыстым, радасным, наскім, беларускім". Можна падумаць, што ня выпадкова якраз першы Барадулін заўважыў у Зуёнкавых вершах гэтыя высокія якасьці, бо яны-ж становяць галоўныя асаблівасьці й паэзіі самога Барадуліна. Гэтае Зуёнкава сваяцтва з Барадулінам, хоць і даволі выразнае ды выяўленае ў шчырай любасьці й арганічным зрадненьні абодвых паэтаў зь беларускай зямлёй і вёскай, дзе яны нарадзіліся і ўзгадаваліся — Барадулін на поўначы Беларусі — у Ушаччыне, а Зуёнак у самым ейным цэнтры — Крупскім раёне — ды ў вобразнай і музыкальнай віртуознасьці адлюстраваньня хараства роднага краю, ані ня зьніжае ступені арыгінальнасьці й творчай самастойнасьці Васіля Зуёнка. Сваяцтва гэтае ня ёсьць у Зуёнка сьляпым насьлядаваньнем Барадулінавай паэзіі, а выплывае з падобнага творчага мэтаду абодвых паэтаў ды падобнай паэтычнай рэакцыі на зьявы жыцьця.

Але, не зважаючы на гэтае падабенства, ёсьць у Зуёнкавай паэзіі й шмат чаго такога, што й розьняць яе ад Барадулінавай творчасьці. У паэзіі апошняга характэрная для яго віртуознасьць вобразаў і музыкі слова часамі становяцца самамэтай, тады як у Зуёнка заўсёды служыць яна выяўленьню ягонага глыбокага філязафічнага роздуму над доляю й нядоляю роднага краю ды сучаснага паэту пакаленьня. Зуёнак, падобна як і наагул ягонае паэтычнае пакаленьне, паэта наскрозь сучасны, але сучаснасьць гэтую ён разумее і асэнсоўвае ў ейнай прычыновай сувязі зь мінуўшчынай, як заканамерны пра-

# ГОД 1522 — ПАЧАТАК ДРУКУ НА БЕЛАРУСІ

Прафэсар Гэбрайскага ўнівэрсытэту ў Ерузаліме, Мошэ Альтбаўэр, выявіў у Даніі, у Каралеўскай бібліятэцы Капэнгагі, няведамы дагэтуль дасьледнікам экзэмпляр Скарынавага віленскага выданьня „Малая падарожная кніжка". Хоць экзэмпляр гэты некамплетны, у ім не хапае некаторых разьдзелаў кніжкі, ды ўнікальны ён гэтым, што захавалася ў ім, ды ў цэласьці й у добрым стане, Пасхалія Скарынавага календара. За гэтай Пасхаліяй скарыністыя разглядаюцца ўжо гадоў дзьвесьце, бо ня мае яе ніводзін ведамы дагэтуль экзэмпляр „Малой падарожнай кніжкі".

На падставе знойдзенае ўрэшце Скарынавае Пасхаліі ўдалося цяпер устанавіць і няведамы раней час выхаду „Малой падарожнай кніжкі" — перад верасьнем 1522 году. А з гэтага вынікае, што першым віленскім выданьнем доктара Францішка Скарыны й была „Малая падарожная кніжка", а не „Апостал" 1525 году, як дагэтуль уважалася, ды што першая друкарня й на беларускай зямлі, і на тэрыторыі ўсяе ўсходняе Эўропы, была заснаваная тры найменш гады раней, як дасюль думалі гісторыкі друку.

Важны беспасярэдні практычны вынік сэнсацыйнае для гісторыі беларускага друку знахадкі й той, што сёлета, а не ў 1975 годзе, прыпадаюць 450-я ўгодкі ад заснаваньня першае ў Беларусі друкарні ды выхаду першае зь яе кнігі. Угодкі гэтыя трэба належна адзначыць.

Вывучэньнем выяўленае ў Капэнгазе Скарынавае Пасхаліі ўжо заняўся дырэктар Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане а. Аляксандра Надсан.

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ*

## КАЛЯДЫ Ў ПАРАХВІІ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ

Сьвяткаваньне Калядаў пачалося 6 студзеня вечарам. Як быццам прачуваючы, што сёлета сьвяточны настрой у Парахвіі будзе спалучаны зь нейкім нечпадзяваным здарэньнем, руплівыя парахвіянкі й сябры Парахвіяльнае Рады загадзя пастараліся надаць царкве сьвяточны выгляд. І не дарма, бо яшчэ ў панядзелак 3 студзеня сакратарка рэлігійнага аддзелу ведамае амэрыканскае газэты „Кліўлэнд Прэс" тэлефанічна паведаміла настаяцеля Парахвіі, што яна хоча адведаць царкву з фатографам і зрабіць колькі здымкаў, якія будуць зьмешчаныя ў газэце 6 студзеня. Было вельмі прыемным тое, што карэспандэнцыя пра калядныя Багаслужбы будзе зьмешчаная якраз перад самымі сьвятамі й што гэта зробіць значны ўплыў на сьвяточны настрой вернікаў. І ўзапраўды, зьмешчаная ў газэце карэспандэнцыя значна спрычынілася да таго, што як на першы дзень Калядаў 7 студзеня, гэтак і на другі дзень сьвятаў, не зважаючы на тое, што гэта былі дні працоўныя, нашая царква была перапоўненая вернікамі. Зь іх траха палавіна была зусім незнаёмая нашым парахвіянам і належала да іншых парахвіяў. Сабраліся гэтак сама і ўсе харыстыя, дзякуючы чаму Божая Служба была асабліва ўрачыстай.

У сыботу вечарам 8 студзеня Парахвіяльная Рада зладзіла ялінку для дзяцей. Перад пачаткам дзіцячае імпрэзы, на якую злажыліся дэклямацыі й сьпеў колькіх песьняў, Уладыка Андрэй зрабіў даклад аб значаньні й гісторыі сьвяткаваньня ялінкі. Ня лішнім будзе перадаць у скарачэньні некаторыя асабліва цікавыя заўвагі дакладчыка.

І так сярод хрысьціянскіх народаў сьвята Раства Хрыстовага ўважаецца сьвятам перш-наперш для дзяцей, для якіх сталася звычаем упрыгожваць ялінку рознымі цацкамі, цукеркамі, іншымі ласункамі й асьвятляць вечарам сьвечкамі. Згодна думкі некаторых, ялінка зьяўляецца сымбалем жыцьця, вернутага нам Хрыстовым Нараджэньнем. А ўпрыгожваньне ялінкі із запаленымі сьвечкамі — сымбаль духовага жыцьця, асьветленага Хрыстовым прыходам на зямлю.

Было-б вельмі прыемна й карысна, калі-б ялінкі ладзіліся ня толькі, як разрыўкі для дзяцей, але каб аднačасна праводзілася і ўзгадавальная мэта ды прышчапляньне дзецям любасьці да нашых народных традыцыяў і звычаяў.

У часе раздаваньня дзецям калядных падаркаў Уладыка Андрэй зазначыў, што звычай, быццам падаркі дзецям раздае Дзед Мароз, абніжае значаньне гэтага сьвята. Што можа Дзед Мароз прынесьці і даць дзецям, калі ён сам нічога ня мае, апрача сьнегу? Вэрсыя, што падаркі дзецям прыносіць Дзед Мароз, паўстала быццам у Расеі, і адтуль распаўсюдзілася. Але як на далёкім Усходзе, гэтак і на Захадзе дзяцей навучалі, што падаркі прыносіць Сьвяты Мікалай, які, як ведама, ня толькі раздаў сваю маемасьць бедным, але й сваёй дзейнасьцяй і дабратою спрычыніўся да ўратаваньня многіх ад галоднае сьмерці. Найбольш узгадавальным мамэнтам ялінкі было-б накіроўваць іхную ўвагу на тое, што Тры Мудрацы з Усходу прынесьлі падаркі Хрысту й што на ўспамін гэтага даюцца сяньня падаркі дзецям на сьвяце ялінкі.

**Прысутны**

*У БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ*

### ЛЯТАРЭЯ КЛЮБУ „ПАГОНЯ"

Лятарэя Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня" была разыграная ў залі БР-ГЦ у Тароньце падчас сустрэчы Новага Году. Сярод шчасьліўцаў, на чые білеты прыпалі выйгрышы, гэтым разам аказаліся наступныя асобы, дарэчы ўсе із ЗША:

1. сп-ня Т. Януш — 50 дал. (№ білету 474),
2. сп-ня Н. Кушаль — 50 дал. (№ білету 2479),
3. сп. П. Конюх — 50 дал. (№ білету 1088),
4. сп. К. Жыхар — 100 дал. (№ білету 151),
5. сп. Нік Швэд — 250 дал. (№ білету 1911).

Прэмію ў суме 25 дал. атрымала сп-ня Соня Швэд.

Як і падавалася ў ранейшым камунікаце Клюбу, увесь даход зь лятарэі прызначаецца вылучна на фонд выданьня Гісторыі Беларусі. Гэтай дарогай шчыра дзякуем Суродзічам, што актыўна падтрымалі нас у правядзеньні лятарэі.

**Управа Клюбу „Пагоня"**

### БАНКЕТ КЛЮБУ ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ

Антарыйская Асацыяцыя Этнічнай Прэсы (у ёй сп. А. Маркевіч афіцыйна рэпрэзэнтуе газэту „Беларус" ад сярэдзіны мінулага году) афіцыйна адзначала другім з парадку юбілейным банкетам у гатэлі Кінг Эдуард Шэратон у Тароньце 20-ыя ўгодкі свайго існаваньня 10 сьнежня летась. На банкеце прысутнічала шмат высокіх і адказных прадстаўнікоў з Фэдэральнага й Правінцыяльнага ўрадаў.

З нагоды свайго юбілею Асацыяцыя выдала аб'ёмную юбілейную кнігу, у якой насьветленая дзейнасьць Асацыяцыі, ейная гісторыя, гісторыя ўсіх публікацыяў, а таксама й гісторыя этнічных групаў, што да гэтае Асацыяцыі належаць. У ёй прысьвечана й Беларусам пару бачынаў таксама, пераважна публікацыям Сяргея Хмары. Але ў гэнай даведцы шмат недакладнасьцяў або й перакручваньняў фактаў. Тое-ж самае датычыцца й да гісторыі Беларусі ў кароценькім аглядзе, якая кампілявалася, відаць, варожымі Беларусам элемэнтамі, аб чым дакладней будзе сказана ў вадным з наступных нумароў нашае газэты.

**А. -віч**

### ПАМЁР АД ПАБОЯЎ

У Тароньце 30 сьнежня памёр ад пабояў наш суродзіч сьв. пам. Мікалай Юркевіч. Нябожчык нарадзіўся ў 1922 г. у Століне на Палесьсі. У 1944 г. разам з бацькамі й братам Уладзімерам апыніўся ў Нямеччыне, а ў Канаду прыбыў у 1952 г. Пахавіны адбыліся 4 студзеня сёлета на магільніку Парклёўн у Тароньце пры ўдзеле парахвіянаў і настаяцеля Беларускай Царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. архім. Язэпа Строка. Нябожчык пакінуў старэнькую маці (бацька Ільля памёр у 1967 г. у часе паездкі ў вадведзіны на Беларусь) і брата із сямеёю.

**Суродзіч**

# ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

Газэта „Беларус", як ведама, выдаецца за грошы, што паступаюць з падпіскі, індывідуальных ахвяраў паасобных суродзічаў ды датацыяў беларускіх арганізацыяў.

Арыентуючыся на прыбыткі папярэдніх гадоў ад паасобных беларускіх асяродкаў (штатаў у ЗША і краёў паза ЗША) ды ўлічваючы іхныя рэальныя магчымасьці, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" распрацоўвае на кажны наступны год правізарычны плян паступленьняў з гэтых асяродкаў ды зьвяртаецца да ўсіх суродзічаў гэных асяродкаў і арганізацыяў з заклікам і просьбай памагчы гэты плян выканаць.

Ніжэй падаём заплянаваныя й атрыманыя прыбыткі за леташні год ды, дзеля арыентацыі, прыбыткі за пазалеташні 1970 год.

| № | Адкуль прыбытак | Прыбытак у 1970 г. | Заплянавана на 1971 г. | Атрымана ў 1971 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Штат і горад Нью Ёрк .... | 877.00 | 1,000.00 | 883.00 |
| 2. | Штат Нью Джэрзі ............. | 1,062.50 | 900.00 | 1,144.00 |
| 3. | Іліной (Чыкага) ................. | 843.65 | 900.00 | 772.00 |
| 4. | Огаё (Кліўленд) ................ | 506.00 | 800.00 | 565.00 |
| 5. | Мічыган (Дэтройт) ........... | 158.00 | 300.00 | 131.00 |
| 6. | Каліфорнія ........................ | 49.99 | 100.00 | 57.00 |
| 7. | Іншыя штаты ЗША ........... | 322.00 | 400.00 | 459.00 |
| 8. | Канада ............................... | 901.45 | 900.00 | 628.85 |
| 9. | Аўстралія .......................... | 483.76 | 450.00 | 512.07 |
| 10. | Ангельшчына .................... | 195.35 | 350.00 | 212.69 |
| 11. | Францыя ........................... | 29.56 | 30.00 | 42.00 |
| 12. | Швэцыя ............................. | 20.00 | 50.00 | - |
| 13. | Бэльгія .............................. | 10.00 | 25.00 | - |
| | **Усяго разам:** | **5,459.26** | **6,205.00** | **5,406.61** |
| | | | **Недабор:** | **798.39** |

З вышэй прыведзенай табліцы відаць, што некаторыя асяродкі значна перавыканалі наш плян і ў некаторай меры пакрылі недабор у прыбытках ад тых асяродкаў, што пляну не давыканалі. Гэткім парадкам летась, як кажуць, былі зьведзеныя канцы з канцамі, хоць зь вялікімі цяжкасьцямі: летась, супраць ранейшых гадоў, ня быў выдадзены ніводзін павялічаны нумар газэты на 8 бачынаў ды давадзілася звужаць некаторыя адміністрацыйныя выдаткі.

Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае сваю шчырую падзяку ўсім тым, што сваймі ахвярамі забясьпечылі дасюлешні выхад газэты.

**Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"**

# ПРОСІМ І ЧАКАЕМ АД ГРАМАДЗТВА

Абмяркоўваючы бюджэтны плян газэты „Беларус" на бягучы 1972 год, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" на сваім паседжаньні 29 студзеня, выходзячы з грашовых прыбыткаў ранейшых гадоў ды канкрэтных патрэбаў сёлетняга году, заплянавала наступныя сумы, якія яна спадзяецца атрымаць сёлета ў якасьці падпіскі й грамадзкіх ахвяраў ад Беларусаў паасобных асяродкаў ЗША і іншых краёў:

| № | Адкуль | Сума ў $ ЗША |
|---|---|---|
| 1. | Штат і горад Нью Ёрк | 1,000.00 |
| 2. | Нью Джэрзі ................. | 1,000.00 |
| 3. | Іліной (Чыкага) .......... | 1,000.00 |
| 4. | Огаё (Кліўленд) .......... | 800.00 |
| 5. | Мічыган (Дэтройт) ...... | 300.00 |
| 6. | Іншыя штаты ЗША ...... | 400.00 |
| 7 | Канада ......................... | 900.00 |
| 8. | Аўстралія ..................... | 500.00 |
| 9. | Ангельшчына ............... | 350.00 |
| 10. | Каліфорнія .................. | 100.00 |
| 11. | Іншыя краі Эўропы .... | 100.00 |
| | **Разам:** | **6,450.00** |

Мы зьвяртаемся да ўсіх Беларусаў і беларускіх арганізацыяў — Аддзелаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной, Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Кліўленьдзе й іншых асяродках, Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускіх Клюбаў у Манчэстары й Брадфардзе, Беларускіх Камітэтаў у Аўстраліі, а так-жа да Беларускіх Парахвіяў і ўсіх іншых беларускіх арганізацыяў і ўстановаў у Вольным Сьвеце — актыўна спрычыніцца да таго, каб запрапанаваны плян прыбыткаў быў выкананы.

**У гэтым, і тоькі ў гэтым зарука й гарантыя далейшага існаваньня „Беларуса" — адзінай нашай нацыянальнай газэты ў Вольным Сьвеце.**

**Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"**

### П А Д З Я К А

Усім суродзічам Беларусам, што прыслалі нам з жонкай калядныя й навагоднія прывітаньні й пажаданьні, ад шчырага сэрца дзякуем і жадаем ім шмат шчасьця й удачы ў Новым 1972 Годзе.

**В. Жук-Грышкевіч**
**Старшыня Рады БНР**

цяг гістарычнага працэсу. А затым і будучыня мроіцца яму, як гэткі-ж заканамерны працяг выраслае на мінуўшчыне сучаснасьці. У вадным сваім вершы свайго другога зборніка „Крутаяр" паэта трапна сказаў пра самога сябе: „Я тут, на зямлі, каб мінулае сшыць з будучым моцнай дратвай".

Працягваючы гэтую сваю філязафічную канцэпцыю гістарычнага працэсу, сваёй паэме „Сяліба" паэта ня выпадкова даў падзагаловак: „Дыялёг праз гады і ростані". У паэме ход пра сучаснасьць, але сучаснасьць гэтая асэнсаваная „праз гады і ростані", пачынаючы ад эпохі, калі

Між лясоў
Асеў бягляк-язычнік днём асеньнім.
Дуброву спляжыў вогненнай касой
І кінуў на гарэльле жменю семя.
Затым на ўсход схіліўся — Сонцу слава!
На захад — пакланіўся Пяруну.
Жытло зьляпіў. Зь сяброўкаю бялявай
Абжыў за ноч глухую старану...
Той край — мая радзіма.

Паэтаў „дыялёг праз гады і ростані" — гэта дыялёг із сваёй роднай сялібай, мясьцінамі паэтавага маленства — ракой Начай і ёю абвітага Крутаяру, што даў загаловак другому Зуёнкаваму зборніку, з Айцом Лявонцім, што расказвае герою паэмы пра мінуўшчыну, захаваную ў помніках зьнішчанай фашыстымі царквы, далей — гэта дыялёг з палявой дарогай, зь Вялікім Каменем, названым у народзе Чортавым, наапошку — дыялёг паэты із самым сабой. Усе гэтыя асобы й пэрсаніфікаваныя зьявы, зь якімі вядзе герой паэмы — сам аўтар свой дыялёг, гэта алегарычныя вобразы аўтаравага роздуму. Дый сам аўтар у заканчэньні паэмы ў пытальнай форме кажа: „Вось і ўсё, дыялёг канчаецца мой ... З табою?... Ці з роднай Зямлёю? А можа — з самім сабой?..".

Шмат месца ў паэме адведзена ў дыялёгу зь ягонай каханай, студэнткай Ліяй, якая аднак не адказвае герою паэмы ўзаемнасьцяй, бо зьвязала свой лёс із студэнтам мэліярацыі Клімам Крамёнкам. Мясьціны пра гэтае каханьне, выказанае вельмі ўзвышана й раманічна, не становяць усё-ж галоўнай тэмы твору. Галоўнай-жа тэмай тут паэтызаваныя вобразы гэнае сялібы, што ў паэтавай памяці алегарызуе ўвесь родны край. „Да родных берагоў, да родных стрэх на споведзь сэрца грэшнае вяду" — пачынае паэта свой твор. Споведзь гэтая выліваецца ў паэтычных вобразах роднага краю й патрыятычнай да яго любасьці. Вось адзін з гэтых вобразаў:

Той край імшарны з сумам верасоў,
Дзе цар — ядловец, нізенькі пярэстар,
Дзе цецярук пад чорнае крысо
Хавае ў дождж па сем цяцер пярэстых,
Дзе валіць з ног цьвярэзьнікаў чабор,
Нібы пяршак найпершай самай пробы,
Дзе выжыла адно найменьне—бор,
Як выспа — паміж лядаў, расьцяробаў,
Дзе прагная сасна дае засеў
І б'юць крыніцы зь вечнаю надзеяй,
Дзе з году ў год лясьнік Якім лысеў
І маткі-старадрэвіны радзелі, —
Той край — мая радзіма...

Дзеля сучаснага асэнсаваньня гэтае радзімы і ейнага народу аўтар у цэлым радзе каларытных вобразаў малюе ейную мінуўшчыну. Вось вобраз самае сівое мінуўшчыны, пададзены ў „Голасе дарогі":

Дрыгвы няма — балацявіны ёсьць.
І быў мужык твой як жаданы госьць,
Я з радасьцю яго сюды вяла —
Да працы і да нашага стала.
І хлеб і ласку добры чалавек
Знаходзіў тут заўсёды — зь веку ў век.
Ня раз па мне зямель чужых сыны
Цягнулі волакам купецкія чаўны...
Тут скрыжаваны ўсіх плямён шляхі:
Быў месцам бойкім гэты кут глухі—
Ліцьвін рачулку Начаю назваў,
Крывіч-бягляк тут хату збудаваў,
Дзяцей жанілі, крэўнасьцю сваёй
Трымалі лад над плоднаю зямлёй.

І вось сяньня гэтая „плодная зямля", зьнявечаная мэльяратарамі й лесанарыхтоўшчыкамі, пачынае пусьцець і бяднець, губляць свой прыродны воблік. „А бывала, і варона ў бары кукавала? На бязьлесьсі-ж падаць галасочак і зязюля ня хоча", або, яка кажа паэта далей,

Зірні туды, зірні сюды:
Ні кусьціка, ні дрэва...
Зямля, крый Божа ад бяды,
Галюткая — як Ева .

Рэкі — песьні зямлі,
Рэкі — душы зямлі,
Бу ў трунах ляжаць — прамыя,
Бы струны — ды ня жывыя.
Высячам пушчы,
Крыніцы засушым...
Як-жа яны будуць—нашыя душы:
Ці не зьбядненюць?
Ці не зьмялеюць?...

Яшчэ ў вершы „Тры цішыні" ў першым сваім зборніку „Крэсіва" Васіль Зуёнак выступіў быў у вабароне прыроды роднага краю перад ейным драпежніцкім нішчэньнем. Праблема гэтая ў паэме „Сяліба" прагучэла больш гнеўным ядчэ пратэстам супраць бяздумнага гаспадараньня чужынцаў родным краем паэты.

Паэма канчаецца аптымістычнай верай ў сьветлую будучыню, а ейныя фінальныя словы — „Квітней, мая Зямля — мая Сяліба!" — гучаць моцным радасным акордам. Аднак, у вапошняй частцы паэмы знаходзім і гэткі зварот:

Край родны мой, Кастрычніцкім набатам
Абвесьнен вольна час твой запаветны.
Мы, камуністы, з бою — як салдата —
Вынесем на руках сваіх плянэту.

Зварот гэты ўсё-ж ня выплывае лягічна із зьместу ўсяе паэмы, а ўспрыймаецца ,як лішняя, але канечная ў сяньняшніх абставінах, рытарычная прычэпка, ані ня сугучная паэтаваму роздуму. Затое лягічнай высновай з гэтага роздуму служаць іншыя радкі ў заканчэньні паэмы:

Сьняцца рэкам крыніцы, крыніцам — лясы,
Сьніцца зерню зялёнае вецьце,
Вецьцю—птушак вясновыя галасы,
Птушкам — крылы, а крылам — вецер...
А ці ёсьць неадступная мара ў мяне?
Што спытаць! Адказаць папрабуйце...
Не, я сэрцам пакуль яшчэ не скамянеў,
Праразаецца думка ў буньце:
Не такі мой народ, каб зьмяняць на капшук
Лёс і славу роднага краю...
...А што ў сэрцы нашу — не гадайце, прашу:
Я нічога ад вас не хаваю...

У гэтых вось словах галоўная ідэя ўсяе паэмы. Паэма „Сяліба", народнае творчае дасягненьне Васіля Зуёнка.. Паэма гэтая — значная падзея і ўва ўсёй беларускай паэзіі сёлетняга году.

**Андрэй Ськіба**

